# З НОВЫМ ГОДАМ, З ЛЕПШЫМ ШЧАСЦЕМ!




ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 1 (308) | ГОД VIII | 6 СТУДЗЕНЯ 1963 ГОДА | ЦАНА 60 ГР

## НАВАГОДНЯЕ ІНТЭРВ'Ю



Новы Год — новыя намеры, спадзяванні, надзеі. Як жа не наведаць новага старшыню Галоўнага праўлення БГКТ тав. Макара Дземяновіча.

— Людзі, калі сустракаюцца, звычайна пытаюць — «Што новага?»

— Не заўсёды. Часамі загарваюць — «Як пажываеце?»

— Дык скажыце, калі ласка, як справы?

— Хтосьці сказаў, што правільна зразумець справу — гэта палавіна работы. Наш актыў займаецца арганізацыяй аматарскіх мастацкіх гурткоў, ладзіць імпрэзы, асветныя курсы, гутаркі, і т.п. Лічыць іх асноўным кірункам сваёй дзейнасці, называючы яе культурнай. Забываем аднак аб тым, што культура — гэта не толькі беларуская мова ў школе ці хвалюючая песня; гэта таксама прыгожа пабрукаваная вуліца ў вёсцы, высокі ўраджай на палях, рацыянальна дагледжаная жывёла, чысціня хаты. Духоўныя запатрабаванні чалавека знаходзяцца ў простай залежнасці ад яго матэрыяльнага дабрабыту.

— Слухаючы Вас перажываю аптымістычнае расчараванне. Так сказаць, чым хутчэй пакончым з культурніцтвам у культурнай працы тым лепш. Сапраўды, неяк раней ніхто не заўважаў, што Беларускае Таварыства з'яўляецца грамадска-культурнай арганізацыяй.

— Іменна.

— Усё ж па-мойму, названне культурніцтва з'яўляецца непазбежным у дзейнасці БГКТ у сілу існуючых велізарных духоўных запатрабаванняў беларускага насельніцтва. Толькі ў наш час зможам ужо пераканацца, што «голад» на родную песню, друкаванае слова, асвету задаволены да нармальнага — «хачу есці». Цяпер прыходзіцца ўсур'ёз падумаць пра культурную працу.

— Апраўдваецеся і пацяшаецеся. Зрэшты, цяжка не згадзіцца з фактам «галадоўкі». Дык варта сказаць пару слоў пра хлеб — сапраўдны хлеб. Думаю, каб перад усім узмоцніць лектарскую працу: пашырыць гутаркі спецыялістаў па сельскай гаспадарцы, якіх шмат выйшла з нашых вёсак. Бо трэба ведаць, што Сакольшчыне або Бельшчыне яшчэ далёкія шляхі - дарогі, каб дараўнаць сваім мазавецкім суседзям з даходнасцю гаспадарак. Прытым не раз задумоўваюся над істотай сучаснага гуртка БГКТ, які найчасцей з'яўляецца фактычна прыдаткам да мастацкага гуртка. Ніяк адно ад другога не адрозніваецца. А можа быць цалкам іначай — у гуртку БГКТ павінны мець месца ўсе важнейшыя справы мясцовасці, аколіцы. Няпраўда, што моладзь за танцамі і песнямі свету не бачыць...

— Веру, што Вам удасца па-

(Працяг на стар. 4)

З КОНКУРСУ ГП БГКТ «МАЕ МАРЫ»

## ШТО ТАКОЕ ЖЫЦЦЁ

НАДЗЕЯ РЭДЗЬКО

**Вучаніца агульнаадукацыйнага ліцэя ў Міхалове (17 год)**

Кожны чалавек на зямлі мае ў сваім жыцці якіясьці думкі, аб чымсьці марыць. Вядома, марыць вельмі прыемна, толькі аднаго шкада на свеце, што мары многіх людзей не спаўняюцца. Калі б яны спаўняліся, не было б бяды, усе людзі жылі б шчаслівы на зямлі, не было б гора. Але бывае, чалавек аб чымсьці марыць, а потым планы свае змяняе. Глядзіць фільмы, чытае кніжкі, яму падабаецца адзін з герояў, які становіцца яго ідэалам. Тады чалавек стараецца ісці па такой самай дарозе. Але ў большасці выпадкаў планы крыжуюцца, так як крыжуюцца каляіны жыцця.

У некалькіх сказах я хачу расказаць аб сваім жыцці і аб сваіх марах. Ведаю, што яны будуць каму - небудзь нават смешнымі. Перш за ўсё пачну аб сваіх дзіцячых думках, якія пакрыжаваліся і амаль зусім недзе зніклі.

Калі вучылася ў пачатковай школе, марыла аб тым, каб хутчэй быць дарослай. Мне здавалася, што толькі дарослы чалавек можа быць шчаслівы. Жыццём яго ніхто не кіруе, жыве па-свойму.

Вучылася выпатна і з года ў год пераходзіла ў наступны клас. Я ніколі не магла ўявіць сабе, як можна застацца на другі год у тым самым класе. Я марыла тады, каб хутчэй скончыць пачатковую школу і выехаць далёка ад дому. Дзіўнымі выдаваліся сяброўкі, якія марылі толькі аб тым, каб скончыць хутчэй пачатковую школу. І вось сёмы клас закончан.

Праз некаторы час я не думала аб тым, што чакае мяне далей. Дома мяне ніхто не разумеў. Кожны дзень былі спрэчкі паміж мной і бацькамі. Не выйграўшы такой спрэчкі, я сядзела і плакала. Тады марыла аб адным — хутчэй выехаць адсюль!

Зладжыла патрэбныя дакументы ў агульнаадукацыйны ліцэй і за два дні складала ўступны экзамен. Выпаў добра, хаця да яго амаль што не рыхтавалася. Помню, калі прыехала дадому, маме было не на руку, што я здала. Яна ж так хацела пакінуць мяне дома!

З гэтага часу змяніліся каляіны майго жыцця. Новае месца і новыя людзі на кожным кроку. І тут я пазнала, што такое жыццё. Пераканалася, што жыццё — гэта ўменне, свайго роду, гульня, а сучасныя людзі — гэта людзі з маскамі замест твараў і, мабыць, таму, што не кожны можа адзець такую маску, яму на свеце кепска. У гадзінах расчаравання і смутку тлумачу сабе: нічога, трэба пагадзіцца з гэтым, як ёсць. Назаўсёды запамятала словы сяброўкі: «У жыцці будуць не такія перашкоды». Я таксама не раз падумала: «І гэта такое жыццё чалавека?». Мне часамі хацелася б быць зноў маленькай, бесклапотнай дзяўчынкай. І я вымарыла сабе другое жыццё. Маё вымаранае жыццё было б без перашкод. Марыла кожны год пераходзіць у другі клас, здаць «матуру» без вялікіх перашкод. Думала не раз аб вучобе на аддзяленні рускай філалогіі, але пераканалася, што да гэтага яшчэ не падрыхтавана. А варта было б паступіць!

(Працяг на стар. 4)



КАТАВІЦЫ — Фота С. Гадомскі

ВАСІЛЬ БАРШЧЭЎСКІ

## Гарняцкае прывітанне табе, Беласточчына!

Выгадна ехаць электрычным цягніком Варшава — Катавіцы. Гэта не тое, што традыцыйны паравоз. Пакуль набярэ хуткасці, засапаецца, а тут ізноў трэба спыняць на прыпынку. Электрычны імчыць хутка і плаўна. Быццам саньмі па снезе. Не зглядзішся, а тут ужо Чэнстахова. Пераехаўшы Чэнстахову, краявід змяняецца карэнным чынам. Традыцыйныя вёсачкі загубленыя ў палях цэнтральнай Польшчы ўступаюць месца мартэнаўскім печам, высачэзным комінам заводаў шахтавым вышкам, побач якіх красуюцца манументальныя галды.

Чуецца подых прамысловага Слёнска.

Слёнск пачынаеш адчуваць і ў самым цягніку. На кожным прыпынку прыбывае штораз больш слёнзакаў з іх хуткім неразборчывым дыялектам. Слухаеш іхнюю гутарку і здаецца — горача спрачаюцца. Прыслухаешся больш уважліва — не, яны звычайна гутараць на свае прафесіянальныя тэмы. Насупроць мяне селі дзве жанчыны. Вонкавы іх выгляд тыпова вясковы. На плечы накінутыя традыцыйныя хусты — валянкі (амаль усе старэйшыя жанчыны на Слёнску абавязкова носяць на плячах такія хусты.) Пачынаюць гутарку. Каментуюць прабег дня працы на заводзе. Пры гэтым сыплюць быццам з рукава тэхнічнымі тэрмінамі. Так, гэта Слёнск.

### ГОРАД ГІГАНТ

У Катавіцы прыязджаем вечарам. Горад жыве яшчэ нядаўна мінуўшым святам гарнякоў — Барбуркай...

На вуліцах грамадныя неонавыя лозунгі аб дасягненнях гарнякоў. У Катавіцах наогул шмат неонаў. Чалавек, які з імі не звыкся, у Катавіцах мімавольна закрывае вочы рукой ад іх яркавасці і трамкацення. Мо' гэта і слушна. Гарнякі, якія амаль палову свайго жыцця праводзяць у падзямельнай цемнаце, хочуць, каб прынамсі на версе было відна.

(Працяг на стар. 5)



# ЭКСКУРСІЯ Ў БУДУЧЫНЮ

Па-рознаму людзі адзначаюць Новы Год, але кожны з нас хоць крыху прызадумоўваецца над будучым. Я не з'яўляюся выключэннем. Таму Новы Год правёў я над кніжкай заходненямецкага вучонага Фрыца Бадэ «Год 2000 — куды імкнецца свет»?

Яе аўтар, сёння ўжо сямідзесяцігадовы стары, з'яўляецца выдатным буржуазным эканамістам.

— «Найбольш горычы прычыняе факт, — піша Бадэ, — што цэнтр свету не толькі па ліку насельніцтва, але таксама і па **гаспадарчай моцы будзе перасоўвацца да ўсходняга свету».** (падкрэсліў Бадэ). Вось прыклад аб'ектывізму ў ацэнцы сучасных фактаў і працэсаў гістарычнага развіцця. Вышэй працытаваны вывад праф. Бадэ фармулюе на падставе аналізу прыросту насельніцтва і паказчыкаў прыросту прадукцыі, якія ў цяперашні момант з'яўляюцца ў два, нават тры разы вышэйшыя ў сацыялістычных краінах чымся ў капіталістычных.

Праф. Бадэ не сумняваецца, што ў 2000 годзе «лік насельніцтва ў цяперашніх краінах камуністычнага лагера перавысіць, прынамсі, у два разы лік насельніцтва цяперашняга «капіталістычнага» свету». Затым заходненямецкі вучоны прызнае, што «лік працаўнікоў прамысловасці ў краінах камуністычнага лагера будзе большы чым у капіталістычным свеце прынамсі прапарцыянальна да агульных лікаў насельніцтва, г.зн. не менш, як у два разы.»

Нягледзячы на гэта праф. Бадэ намагаецца бараніць буржуазную сістэму і сцвярджае: « Калі ўсё гэта з'яўляецца непазбежным, дык перш за ўсё нельга дапусціць да аднаго: менавіта да таго, каб камуністычны лагер разам з гаспадарчай перавагай дабіўся і якаснай перавагі — перавагі мазгоў». Такое жаданне застанецца толькі жаданнем буржуазнага вучонага, які яшчэ не ведае пастаноў XXII З'езда КПСС. Не бярэ ён пад увагу савецкіх планаў, у якіх м.ін. прадбачана, што ўжо ў 1980 годзе 70% працаўнікоў народнай гаспадаркі павінна мець вышэйшую адукацыю. Зрэшты, і ў самога Бадэ паўстаюць сумненні, ці заходні свет даб'ецца гэтай «перавагі мазгоў», бо з жалем піша, што «у Савецкім Саюзе для навуковых мэт прызначаецца ў два разы большыя сродкі з народнага даходу чымсьці на Захадзе.»

Бадэ з'яўляецца эканамістам і не разбіраецца напр. у фізіцы. Адсюль цяжка яму ацаніць сучасныя дасягненні СССР у галіне заваявання касмічнай прасторы, будовы матэматычных машын і прадукцыйных аўтаматаў. Услед за «Нью Йорк Таймс» пацвердзіў ён толькі, што «у Савецкім Саюзе пры такіх самых выдаткаваннях у многіх галінах атрымоўваюцца большыя эфекты... чымсьці дагэтуль на Захадзе». Здаецца, бліжэйшае будучае прымусіць праф. Фрыца Бадэ змяніць свае погляды і на «мазгавое» спаборніцтва паміж Усходам і Захадам. Тым болей, што стары прафесар стараецца быць сумленным, аб'ектыўным вучоным.

Яго сумленнасць асабліва відавочна ў ацэнцы перспектыў мірнага суіснавання. Бадэ з'яўляецца пацыфістам. Глыбока пераняўся словамі сааўтара атамнай бомбы праф. Эйнштэйна, які незадоўга перад смерцю, у 1955 годзе, выступіў з наступнай заявай: «У выпадку масавага прымянення вадароднай зброі патрэбна лічыцца з тым, што значная колькасць чалавецтва памрэ адразу, рэшту ахопяць страшэнныя хваробы і астаткова памрэ ўсё жывое».

Прафесар Фрыц Бадэ, як кожны сумленны чалавек, адкідае гэтакую перспектыву. Адзінае выйсце бачыць «...у поўным разбраенні не толькі ад ядзерных і вадародных бомб, але таксама і ад канвенцыянальнай зброі і пераўтварэнні ўсіх армій свету ў мірныя арміі працы».

Сёння чалавецтва мае права патрабаваць, каб да такіх вывадаў, да якіх дайшоў гэты буржуазны вучоны, дайшлі таксама буржуазныя палітыкі і каб захацелі іх чым хутчэй рэалізаваць. Тады аб лёсе свету ўсе былі б спакойны не толькі да 2000-га года.

Праф. Бадэ ў сваёй ацэнцы будучыні прытрымоўваецца рамак рэалізму. І нас гэта дадаткова пераконвае ў тым, што заўтра чалавецтва належыць міру і сацыялізму.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**

P.S. — Fritz Baade: „Rok 2000 — ku czemu zmierza świat". Państwowe Wydawnictwo Ekonomiczne, Warszawa 1962 г.

# АРЦЁМ ДАРЭЎСКІ — ВЯРЫГА

**(У ПАРАДКУ ДЫСКУСІІ)**

**МАЦЕЙ КАНАПАЦКІ**

У зборах польскага пісьменніка Юзэфа Ігнацага Крашэўскага, якія захоўвае Ягелёнская бібліятэка ў Кракаве, знаходзіцца багатая рукапісная спадчына Аляксандра Дароўскага-Вярыгі (1815—1874). Яго выказванні і думкі сведчаць, што маем тут дачыненне з вельмі цікавай з'явай у літаратуры. На фоне дарэформеннай Расіі вырысоўваецца Аляксандр Дароўскі - Вярыга як прагрэсіўны дзеяч, якога погляды здзіўляюць нас сваёй глыбінёй і празорлівасцю. Што ж дае нам сёння падставы пагаварыць аб ім, бліжэй спазнаць яго духоўны свет, яго грамадска - палітычнае крэда?

Справа тут менавіта ў нейкай злашчаснай традыцыі, якая ў мінулым і зараз застаўляе, як справядліва адзначае беларускі савецкі даследчык Адам Мальдзіс у артыкуле п.з. «Наддзвінскі дудар» («Літаратура і мастацтва», 14.XII. 62.) блытаць, а нават атоесамліваць беларуска-польскага пісьменніка Арцёма Дарэўскага-Вярыгу з польскім пісьменнікам Аляксандрам Дароўскім - Вярыгай. Так сталася і ў маім артыкуле, апублікаваным у «Ніве» ад 5 жніўня г.г. Тут разглядаліся некаторыя бакі творчасці Арцёма Дарэўскага-Вярыгі на падставе яго беларускіх твораў, змешчаных у польскім часопісе «Рух музычны» ў 1859 г. У гэтым часопісе іх аўтар падпісаўся псеўданімам «Беларуская дуда». Так было і ў наступным выпадку, калі пад карэспандэнцыяй з Віцебска ў 1861 г. у «Руху музычным» Арцём Дарэўскі - Вярыга падпісаўся такім жа самым псеўданімам. Мала таго. Яго «Гавэнда аб сваяку» (Магілёў, 1858.), якая, на жаль, загублена, а раней знаходзілася ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве, таксама падпісана «Беларускай дудай». Здавалася б тады, што ўсё ясна і зразумела. Тым часам польскія крыніцы падкрэсліваюць, што такія псеўданімы, як Беларуская дуда, Артэміюш, Чомбер, Мізантроп і Салецкі належаць Аляксандру Дароўскаму-Вярызе, якога я раней успрыняў за беларускага пісьменніка на падставе паасобных знешніх прыкмет. Аб іх крыху пазней. У прыватнасці, аўтары «Бібліяграфіі Руху музычнага» В. Багдані і К. Міхалоўскі лічаць «Беларускай дудай» Аляксандра Дароўскага - Вярыгу. Звернем яшчэ ўвагу, што ў яго паперах, захаваных у Ягелёнскай бібліятэцы, сустракаем вельмі часта псеўданім «Чомбер». Вынікала б з гэтага, што аўтар беларускіх твораў у «Руху музычным» і аўтар шматлікіх лістаў і прац у кракаўскіх зборах гэта адна тая ж самая асоба. Аднак паводле меркаванняў А. Мальдзіса, Аляксандр Дароўскі - Вярыга не мог быць аўтарам карэспандэнцый з Віцебска, а гэтым самым і ўспомненых беларускіх твораў: «Гімну да абразу Цудоўнай Маткі Божай Бялыніцкай над Дняпром» і «Думкі салдаткі» з оперы «Грэх 4-ры гнеў». Аўтар артыкула ў «Літаратуры і мастацтве» паклікаецца зрэшты на публікацыю А. Семяновіча («Беларусь», №8, 1959), які называе камедыю «Гнеў» і камічную оперу «Грэх» творамі Арцёма Дарэўскага - Вярыгі. Удакладняе толькі А. Мальдзіс, што загаловак «Грэх 4-ры гнеў», які бачым у «Руху музычным», ад 1959 г. сведчыць аб наяўнасці аднаго твора, не двух, як меркаваў А. Семяновіч. Ідзем далей. А. Мальдзіс услед за каментарыем В. Каратынскага, змешчаным у 10-томным зборы твораў Ул. Сыракомлі (Варшава, 1872.), прыпісвае Арцёму Вярызе - Дарэўскаму аўтарства «Гутаркі аб сваяку» («Гавэнды аб сваяку»). Я не маю нічога супроць такой пастаноўкі справы. Пра гэтае ж мне і разыходзілася, калі пісаў артыкул у жнівеньскім нумары «Нівы». Тут, аднак, прынамсі ўяўна мы апынуліся ў пастцы. Прыпамінаю, што псеўданім «Дуда беларуска» і «Чомбер» належаць паводле польскіх крыніц да аднаго чалавека — Аляксандра Дароўскага - Вярыгі. Дык калі тут супадзенне, калі псеўданімам «Дуда беларуска» карыстаўся таксама Арцём Вярыга - Дарэўскі, тады ўсё ў парадку. Аднак чаму ніякія беларускія крыніцы не ўказваюць на наяўнасць у яго такога псеўданіма? Не робіць гэтага А. Мальдзіс, ні нават Д. Васілеўскі ў сваёй цікавай публікацыі п.з. «Арцём Ігнатавіч Вярыга і яго літаратурна - грамадская дзейнасць» («Полымя», №6, 1929.) Калі ўлічым, што іншы псеўданім Аляксандра Дароўскага - Вярыгі, менавіта, Артэміюш нагадвае імя Арцём, якое належыць Вярызе - Дарэўскаму, калі дададмо, што амаль супадаюць гады нараджэння пісьменнікаў (Аляксандр Дароўскі - Вярыга 1815 год, Арцём Вярыга - Дарэўскі — 1816 год; так прынамсі падае ў апошнім выпадку Д. Васілеўскі), дык узнікне дзіўная карціна, на фоне якой можна было б іх выпадкова атоесаміць.

Нельга не згадзіцца з А. Мальдзісам, што беларускі пісьменнік не з'яўляўся аўтарам збору прымавак п.з. «Адзін раздзел да будучай кнігі польскіх пры-

(Працяг на стар. 4)

# Спорт

Па колькі ў спартыўным жыцці краіны ў апошнім часе панаваў святочны настрой і нічога істотнага не адбылося, сённяшнюю рубрыку прысвецім навінам з савецкага спорту. Тут перад усім закончыліся ажыўленыя спрэчкі аб новым парадку розыгрышу чэмпіянату краіны па футболу. Пленум федэрацыі футбола СССР, які нядаўна адбыўся ў Маскве, вырашыў правесці расшырэнне класа «А» да 34 каманд. Аднак дзяленне на групы 17+17 (першая і другая ліга) ўвядзецца толькі ў 1964 годзе. У будучым сезоне 34 каманды разбіваюцца на дзве групы — 20 і 14 каманд. У першую ўвойдуць 20 каманд, якія занялі першыя 20 месц у мінулагоднім чэмпіянаце. Каманды гэтай групы будуць непасрэдна змагацца за залатыя медалі чэмпіёнаў і прызавыя месцы. У другую групу класа «А» уключаюцца каманды, якія занялі два апошнія месцы ў апошнім чэмпіянаце і 12 лепшых каманд класа «Б». Як бачым, перамагла логіка. Абмежавана да мінімум прыпадковасць у дзяленні на групы паводле вынікаў дагэтуляшняй сістэмы, якая мела вялікія заганы, ахвярай якіх палі алмаацінскі «Кайрат» і мінская «Беларусь». Асабліва першая. Але лёс для гэтых каманд усміхнуўся. І «Беларусь» (цяпер пераіменавана на «Дынама»), якая заняла 19 месца і «Кайрат», які заняў 20 месца, у новым сезоне будуць гуляць у першай лізе. Новы сезон пакажа сапраўдную вартасць кожнай каманды. Цяпер на прыпадковасць лічыць (і скідаць грахі) ніхто не будзе мог, бо каманды будуць гуляць кожна з кожнай.

Якія каманды зоймуць месца ў другой лізе? Напэўна — рыжская «Даўгава» і вільнюскі «Жальгірыс», якія спалі з першай лігі. Аб 12 іншых нічога пакуль невядома. Бо хоць у пастанове пленума гаворыцца, што ўвойдуць у яе «12 лепшых каманд класа «Б», аднак тут жа дадаецца — «якія маюць неабходныя ўмовы да выступлення ў класе «А». Значыць будуць брацца пад увагу не толькі спартыўныя дасягненні, але і іншыя даныя, як, напрыклад — не мала важны фактар — рэнтабельнасць. Калі б вырашаў спартыўны прынцып — хіба не мала шанцаў мела б другая беларуская каманда — гомельскі «Лакаматыў», якая ў сваёй зоне заняла першае месца. Дарэчы, адзначым вынікі іншых беларускіх каманд, выступаючых у класе «Б» (усе яны гулялі ў першай зоне саюзных рэспублік). Брэсцкі «Спартак» заняў 4 месца, магілёўскі «Хімік» — 6, мінскія армейцы — 7, віцебскі «Чырвоны сцяг» — 15.

Хопіць пра футбол. У склад зборнай каманды СССР па лёгкай атлетыцы на 1963 г. уключана 10 лёгкаатлетаў Беларусі: Марыя Іткіна, Уладзімір Гараеў, Эдуард Паўлаў, Уладзімір Боркін, Барыс Хларовіч, Барыс Мядзведзяў, Віктар Бяліхін, Аляксей Балтоўскі, Караліна Пятровіч і Уладзімір Куркевіч.

Нядаўна на ўсесаюзных спаборніцтвах канькабежцаў мінчанін Э. Матусевіч у бегу на 1500 м. паўтарыў сусветнае дасягненне і ўстанавіў новы рэкорд краіны для раўнінных каткоў (2.10,8). Апошнія вынікі гэтага спартсмена (на 500 м. апярэдзіў рэкардсмена свету Е. Грышына і заняў першае месца, а таксама перамога ў мнагаборстве, дзе між іншым апярэдзіў чэмпіёна Еўропы Р. Мяркулава) гавораць, што беларускі канькабежац выйшаў на вялікую сусветную арэну.

**Аут**




## СТАРЫ

Гадзін у дзесяць раніцы да вакзала прыгараднай чыгункі падыйшоў электрацягнік. Хлынуўшы з яго натоўп вынес на перон старога.

Коратка падстрыжаныя сівыя вусы і такая ж бародка, цёмныя вочы, невялікі, правільнай формы нос. Вопратку яго складаў касцюм з недарагой шарсцяной тканіны і каракулевая папаха — так звычайна апранаюцца старыя людзі сярэдняга дастатку ў маленькіх гарадах Азербайджана.

Выйшаўшы на прывакзальную плошчу, стары рушыў у напрамку мора. Тут цягнуліся кварталы аднапавярховых дамоў. Чалавек у папасе нетарапліва паплёўся ўздоўж іх, і, нарэшце, аказаўся перад трухлявым домікам з палісаднікам.

Стары двойчы прайшоўся перад домікам, быццам вывучаючы яго, затым накіраваўся да прадук-

1

товага магазіна, які быў непадалёку. Ля магазіна выцягнулася доўгая чарга, і ён стаў у яе канец.

Прайшла гадзіна. Стары быў ужо ля самых дзвярэй магазіна, калі з дома з палісаднікам выйшаў чалавек. Убачыўшы яго, стары кашлянуў, пераступіў з нагі на ногу і, тарапліва дастаўшы з кішэні жоўты заімшэлы бумажнік, раскрыў яго. Потым падняў галаву, сустрэўся позіркам з суседкай па чарзе — пажылой жанчынай з дзіцём на руках — і з прыкрасцю пакачаў галавой.

— Што здарылася? — спытала жанчына.

Стары маркотна ўсміхнуўся.

— Адзін шайтан ведае, колькі я пратарчаў тут. А картачак няма — забыў дома!

— Дык бяжыце дамоў, ды хутчэй, бо чарга надыдзе.

Стары ўдзячна заківаў і трушком пабег па тратуары.

Крокаў на дзесяць наперадзе быў той, хто выйшаў з дома з палісаднікам. Гэта быў высокі хударлявы мужчына ў бобрыкавай куртцы і чырвонаармейскай шапцы.

Неўзабаве гэты чалавек і стары апынуліся ў трамваі. Яны стаялі побач. Трамвай імчаўся ў цэнтр горада. Пасля кожнага прыпынку ў ім рабілася ўсё цясней.

Раптам стары схапіўся за кішэню.

— Абакралі! — закрычаў ён.

У вагоне падняўся перапалох. А ён абмацваў сябе, хлопаў па кішэнях, шукаў за пазухай.

— Абакралі, — цвярдзіў стары, — бумажнік вы-

2

цягнулі, а ў ім прадуктавыя картачкі!

Раптам ён змоўк, нешта мяркуючы, крута павярнуўся і аказаўся нос у нос з чалавекам у чырвонаармейскай шапцы.

— Гэта ты ўкраў, сын сабакі! Дзе бумажнік? Аддай або паклічу міліцыянера!

Адбіваючыся ад наступаўшага старога, пасажыр адступаў да выйсця.

— Глядзіце, — крыкнуў стары, — Глядзіце сюды!

Усе паглядзелі ўніз. Там на бруднай падлозе жаўцеў заімшэлы бумажнік.

Стары кінуўся наперад, учапіўся злодзею ў грудзі.

Трамвай падыходзіў да прыстанка. І тут здарылася нечаканае. Злодзей, які выглядаў такім слабым і нясмелым, выпраставаўся, кароткім дакладным ударам зваліў старога і кінуўся ўцякаць. За ім наўздагон кінулася чалавек з дзесяць. Злачынца бег па вуліцы, потым, убачыўшы перад сабой вайсковы патруль, кінуўся ў вароты нейкага будынка. Вароты вялі ў непраходны двор і неўзабаве ўцякач апынуўся ў руках падаспеўшага міліцыянера. Пачалі шукаць пацярпеўшага. Але той нібы ў ваду кануў.

## ЗЛОДЗЕЙ?

Да будынка аддзялення міліцыі пад'ехала легкавая машына. З яе выйшлі двое ў цывільных касцюмах і накіраваліся ў кабінет начальніка аддзя-

(Працяг на стар. 5)

3

**З ПІСЕМ ЗЕМЛЯКОЎ**

# Сястры, што ў горадзе

Добры дзень, дарагія Ганя і Вадзім! Цалую міленькіх дзяцей вашых, Пецю і Юрачку, і ці здаровыя яны? Выбачайце, што так доўга не адпісвалі, бо за зімовымі парадкамі не мелі часу, а цяпер дроў на запас гатовім. З малацьбою, нарэшце, справіліся шчасліва. Татка да млына ездзіць намалоць мукі, вотруб'я..

Думала прыехаць да вас у гэту суботу і пабыць у нядзелю, але не было як, кароў даіць трэба, маці пальцы падрантвелі. Відаць, прадула яе каля малатарні снапы падаваючы. Сон дзіўны нядаўна я мела, што нібы ты сярдуеш, чаму не вучуся далей, у вёсцы нашай закінутай загразла, дзе ані электрычнасці, ані моладзі няма. Чуць не пасварыліся. Разжаленая тлумачыла ўсенька каторы ўжо раз, што яшчэ пазалетась, калі сёмы клас канчала, разам з мамкаю паслалі пісьмо да цябе, каб пра школу распытала і нават сукенку модную ў краўчыхі заказалі. Ды бацька заўзяўся не пусціць нікуды, аж я плакала. Гаварыў — помачы на гаспадарцы не застанецца, здароўе зусім страціць. Даволі, казаў, што Танька вывучылася, пашто больш намагацца?!... вунь, зямлі колькі ўраджайнай нажылі, кавалак хлеба да смерці пэўны...

Ціха ў нас, як бы і людзей на свеце не было. Свята настане, татка дрэмле на прыпечку, адпачывае да вечара, а мне неахвота з суседкамі мамінымі талкаваць, якія адно хваляцца сваімі дочкамі, як гэта беластоцкія прафесары пяцёркі стаўляюць ім за навуку пільную ды ў горы выцечкаю выбіраюцца.

Любіла калісьці кніжкі чытаць аб прыгодах у краінах заморскіх. У вольную хвіліну надумалася падысці да настаўніка, мо' аповесці якія лень пазычыў бы? І вось, ведаеш, няёмка зрабілася чамусьці, не адважылася ў дзверы пастукаць, з-пад парога назад павярнула дамоў.

Іду неяк да гумна мякіны свіням да цеста набраць. Бачу, цётка Феня ўсміхаецца з-за плоту, загаварвае пра тое, як вырасла я хутка, харошанькая якая сталася. Клікнула бліжэй і шэпча аб тым, Таня, што чула яна, быццам хлопец адзін заможны і разумны сватаецца да мяне! Ой жа выдумляюць людзі, аж дзіва бярэ, пляткуюць адусюль, бы нанятыя.

У астатніх словах пісьма свайго жадаю, сястрыца, здароўя сямейцы ўсёй і на свята запрашаем прыязджаць, фурманку запражэм, на аўтобусным прыпынку будзем чакаць нецярпліва. Прысмакаў прыздоблю, хрусцікаў смачных з пшанічнай пытляванкі нараблю. Абавязкова Пецю і Юрачку вазьміце, паняньчыць іх хочацца, дзедка з бабкаю ўзрадуюцца.

Прыязджайце — толькі напэўна.

**Адоль КАСТРЫЦА**


Аляксандр Іванюк

# ГАРНЯЦКАЕ ПРЫВІТАННЕ ТАБЕ, БЕЛАСТОЧЧЫНА!

(Працяг са стар. 1)

Блізка вакзала ёсць аж тры гатэлі. Але не лёгкая справа знайсці ў іх вольнае месца.

— Заняты, — адказваюць парт'еры.

І тут чалавек сустракаецца з прыватнай ініцыятывай. Яна ў постаці разадзетай у футры матроны і пажылога, з выглядам дыпламаты пана, ветліва запрашае вас на начлег, за... 50 злотых. І так, пад дзвярыма гатэля, Катавіцкія лаўкачы робяць какасовыя інтарэсы. Прыезжых у Катавіцах шмат. А спаць кожнаму хочацца.

Катавіцы шпарка разбудоўваюцца. Прыгожае тут жыллёвае будаўніцтва. Прадуктовыя магазіны выдатна забяспечаны. Нідзе я не бачыў чаргі купляючых. На вуліцах шмат мясных склепаў і малочных бараў з цікавымі назвамі. Напрыклад бар «Падмацуйся», як жа не зайсці ў такі бар, калі ўжо самая яго назва разбуджае апетыт у чалавека.

Катавіцы знаходзяцца ў цэнтры прамысловага Слёнска. Сталіцу Слёнска акружаюць гарады - сатэліты, як Сасновец, Забжэ, Глівіцы, Бэндзін і шмат другіх, якія ў цэласці ствараюць адзін горад - гігант. Бо ў сапраўднасці ўсёй гурны Слёнск гэта адзін вялікі горад. Тут вельмі добра развязана справа гарадскога транспарту. За адзіныя 7 злотых можна праехаць аўтобусам з Катавіц да Глівіц. Гэта прыблізна каля 50 кіламетраў. На гэтай трасе ўсёй час едзецца горадам. З Катавіц да Глівіц можна даехаць таксама трамваем або электрычным цягніком, які даязджае што некалькі мінут. Усёй Слёнск, на глыбіні неаднойчы сягаючай звыш кіламетра, паточаны гарняцкімі тунелямі.

— Калі б злучыць тунелі 85 шахтаў, якія знаходзяцца на Слёнску, — гаварыў мне знаёмы інжынер - шахцёр, — дык даўжыня іх складала б прыблізна 8 тысяч кіламетраў. Здорава, што?!

### ПАЗНАЁМІЛА НАС «БЕЛАСТОЧЧЫНА»

— Хочаш адшукаць гарнякоў з Беласточчыны, дык паязджай у капальню «Сасніца», — сказалі мне калегі ў рэдакцыі «Трыбуны Рабатнічай».

Пры іхняй дапамозе я хутка аформіў справу дазволу на з'езд у шахту.

Дазвол такі выдае дырэктар аб'яднання вугальнай прамысловасці.

— У нашых капальнях, — гаварыў дырэктар, — шмат людзей працуе з Беласточчыны. Добрыя гэта гарнякі, працавітыя. Аб іх варта вам напісаць добры артыкул.

Сасніца гэта тыпова гарняцкая мясцовасць. Ляжыць яна недзе на палове дарогі з Забжа ў Глівіцы.

— З беларускае рэдакцыі? — захваляваліся ў дырэкцыі. — Загранічныя госці часта ў нас бываюць, а вось з Беларусі яшчэ і не было.

Я абавязаны быў расчараваць кіраўнікоў капальні і адначасова коратка расказаць ім аб жыцці беларусаў на Беласточчыне.

— З Беласточчыны? Тады іншая справа. Але скажам па шчырасці, што прымаць вас будзем з не меншай прыемнасцю. У нашай жа капальні працуе чалавек 500 з вашай Беласточчыны. Хлопцы малайцы, працавітыя. Фэдруюць, як сапраўдныя пероны. А некаторых з іх можна ставіць у прыклад нават радавітым гарнякам.

Ізноў мне было вельмі прыемна пачуць столькі добрага аб сваіх суродзічах.

Вечарам накіраваўся я ў дом гарняка, дзе жывуць халастыя шахцёры. Каб адшукаць беларусаў, я пачаткова намераны быў перагляну ць спісак жыхароў дома гарняка, але пасля змяніў свой намер. Праходзячы калідорам, я пачуў нейкую знаёмую мелодыю. Прыслухаўся да яе. Але ж так, не было ніякіх сумненняў. Гэта ж «Беласточчына» Віктара Шведа.

Ну, думаю, спісак не будзе мне патрэбны. Адчыняю дзверы. За столікамі пры шклянках «чорнай» сядзіць юнакоў 10. На крэсле пры раялі добра збудаваны дзяцюк, бялявы такі. Ён і выгрывае «Беласточчыну»! Чалавек 6 сяброў акружылі яго і падцягваюць «мурмурандам». А выгляд ва ўсіх такі, ну проста пахне ад іх Белавежай. Я падышоў да хлапцоў, прывітаўся.

— Што, што, з «Нівы»? — перапытаў мяне бялявы, — вось здорава! А я з Дубіч Асочных — Саша Іванюк, — адракамендаваўся ён. А гэта Янкі Сцяпанюкі з Давідаўцаў, Пятро Іванюк з Крывое, Ваня Янчук з Курашава, Анатоль Ціханюк з Літвінавіч, — знаёміў мяне Саша з сябрамі.

Я хутка з хлопцамі разгаварыўся. А жыццё ў іх цікавае.

**(Заканчэнне ў наступным нумары)**


**Катавіцы. Гэтак званая «Катушка» — новы жыллёвы квартал.**

Фота **С. Гадомскі**

**(Працяг са стар. 2)**

лення. Маёр міліцыі Шырокаў, ужо папярэджаны па тэлефону, пайшоў насустрач.

— Добры дзень, таварыш палкоўнік, — сказаў ён звяртаючыся да аднаго з наведвальнікаў. Той кіўнуў, паціснуў яму руку, указаў на спадарожніка.

— Знаёмцеся. Гэта — маёр Сёмін.

Шырокаў ужо шосты год працаваў у гэтым аддзяленні міліцыі, які абслугоўваў адзін з цэнтральных раёнаў Баку. Справы неаднойчы зводзілі яго з палкоўнікам дзяржаўнай бяспекі Азізавым. Палкоўніку даручаліся складаныя справы.

Што ж сёння прывяло сюды палкоўніка? Азізаў выцягнуў партсігар, запрапанаваў афіцэрам папяросы, закурыў сам.

— Пакажыце фатаграфію, — сказаў ён спадарожніку.

Сёмін выняў і падаў фатаграфію Шырокаву. З яе глядзеў мужчына сярэдніх год, худы і відавочна высокі.

— Не, — сказаў Шырокаў, звяртаючы картачку, — такога не ведаю.

— Чалавек гэты арыштаваны, — сказаў Азізаў. — Сядзіць. І, дарэчы, у вас.

Шырокаў узяў зводку здарэнняў за дзень.

— Злодзей? — спытаў ён. — Крадзеж у трамваі?

— Так.

— І ім цікавіцеся вы? Чаму ж тады крадзеж? Ён што, зглузду з'ехаў? Нічога не разумею.

— Мы таксама, — сказаў палкоўнік. — Засеклі

4

яго далёка адсюль, яшчэ паўмесяца назад. Вывучаем. Ёсць усе даныя думаць, што прыбыў ён па важнай справе. Пачаў дзейнічаць — і, на табе, дробная крадзеж!

Шырокаў пазваніў. Увайшоў памочнік. Начальнік аддзялення перадаў яму зводку, падкрэсліўшы пазногцем месца, якое адносілася да трамвайнага здарэння.

— Праверце, хто вядзе следства.

Неўзабаве памочнік вярнуўся. Ён далажыў: арыштаваны прызнаўся да крадзежы.

— Прызнаўся? — здзівіўся Азізаў.

— Нават раскаяўся.

Азізаў пачаў чытаць следчыя матэрыялы.

— Так, — сказаў ён, гартаючы паперы, — дакументаў пры сабе не меў або, хутчэй за ўсё, выкінуў перад арыштам. Назваўся Аляксандрам Шчукам. Адрас даў фальшывы... І яшчэ — прызнаўся! — Палкоўнік падняў галаву.

— Мяне цяпер цікавіць іншае, — сказаў ён. — Як здарылася, што ён апынуўся ў ролі злодзея і трапіў у міліцыю? Каму гэта спатрэбілася?

**АРУДЖАВА**

Гадзін праз тры ў кабінеце Азізава зазваніў тэлефон.

— Таварыш палкоўнік, — дакладваў Шырокаў, — да мяне з'явілася адна грамадзянка ў справе таго пацярпеўшага ў трамваі...

— Прасіце грамадзянку да мяне.

— Ясна, таварыш палкоўнік. Зараз з'явіцца. Запішыце для пропуску: Аруджава Шафіра.

5

Неўзабаве яна сядзела перад палкоўнікам і расказвала аб гісторыі ў чарзе.

... — Час ідзе, а старога няма. Мне ўжо і цукар выдалі, а яго не відна.

— Так і не прыйшоў?

— Не прыйшоў! Што ж, думаю, справа твая. А я чакаць не магу — у мяне дзіцё на руках. І пашла. Даходжу да трамвайнага прыпынку і, што вы думаеце, — ён!

— Стары?

— Ён! Ну, паехалі. Ажно чую, стары падняў авантуру. Бумажнік, крычыць, укралі. Я б не звярнула ўвагі — ці мала што здараецца. Але бачу — хлусіць. Кажа, што ў бумажніку былі прадуктавыя картачкі, а я ж ведаю, не было там ніякіх картачак.

— Ну, што далей было, вы ведаеце... Так, яшчэ! Калі злодзея лавілі, я ў той двор увайшла. Там шмат народу сабралася. Аглянулася — побач стары. «Ах ты, гавару, такі - сякі! Навошта чалавека здарма абвінавачваеш? Картачак жа не было ў цябе!» Тут усе зашумелі — міліцыянер вывеў уцекача. Ну, я на іх і зазявалася. Потым аглянулася — старога няма. І я падумала: трэба схадзіць у аддзяленне. Чалавек-та мо' і дарма...

Палкоўнік разлажыў перад Аруджавай фатаграфіі.

— Скажыце, ці няма тут картачкі таго старога?

Жанчына аглядзела фатаграфіі.

— Не, — цвёрда сказала яна. — гэта іншыя.

**(Працяг за тыдзень)**

6

# Трыбуна чытачоў

Сельская гаспадарка без таямніц

## АВС штучных угнаенняў (ч. І.)

Наша рэдакцыя, жадаючы дапамагчы сваім чытачам у выбары і своетэрміновай закупцы штучных угнаенняў, вырашыла надрукаваць некалькі артыкулаў на гэтую тэму. Пагаворым у іх аб відах угнаення, аб іх састаўных частках, аб уздзеянні на расліны і г.д.

Варта ведаць, што выкарыстоўванне штучнага (мінеральнага) угнаення ў нас вельмі слабое. У сярэднім прыпадае на гектар плошчы каля 29 кг азоту, калія і фосфару. У той час як на Беласточчыне неабходна даваць каля 60 кг угнаення на гектар (у чыстым складзе).

* ✲ *

Чалавек есць, каб жыць. Некаторыя сцвярджаюць, што наадварот: чалавек жыве, каб есці. Так ці іначай, але харчаванне неабходна для жыцця, росту, развіцця.

І не толькі для чалавека. Кожная расліна жыве, дыхае,ператраўляе кармавыя рэчывы. Кожная, нават самая маленькая раслінка, павінна харчавацца. А іх харчаванне — гэта азот, фосфар, калій і вапна. Акрамя таго, расліна выцягвае з глебы і іншыя элементы. толькі ў значна меншай колькасці (сера, жалеза, натрый, крэмній, магній, марганец, медзь, малібдэн).

Калі ў глебе няма дастатковай колькасці спажыўных рэчываў, расліна не можа нармальна развівацца. І тады ўраджай слабы. Іменна недахоп гэтых рэчываў у глебе з'яўляецца прычынай усё яшчэ нізкаї: ураджайнасці збожжа, якога збіраем толькі каля 12 ц. з гектара.

Часта можна пачуць, што ў Пазнаньскім або Апольскім ваяводствах збіраюць па 22—24 цэнтнеры з гектара. Дзякуючы чаму? Цэламу шэрагу прычын. Адной з іх з'яўляецца ўгнаенне, якога там выкарыстоўваецца ў два разы больш чым у нас.

Колькасць угнаення залежыць ад глебы і расліны. Аб патрэбе ўгнаення гавораць карты, зробленыя хімічна - сельскагаспадарчай станцыяй у Беластоку. Каб жыта дало ўраджай у 20 цэнтнераў з гектара, трэба: 60 кг азоту, 32 кг фосфару, 55 кг калія і 18 кг вапны. Частка гэтых рэчываў ёсць у глебе, але большую частку трэба ўнесці ў выглядзе ўгнаення. Патрэбы бульбы пры ўраджайнасці 200 ц. з га: каля 100 кг азоту, 36 кг фосфару, 156 кг калія і каля 15 кг вапны. Такім чынам бачым, што пад бульбу трэба значна больш угнаенняў.

Колькасць угнаення залежыць таксама ад папярэдняй культуры. Напрыклад, бульба, саджаная на месцы стручковых, не патрабуе ўжо азотных угнаенняў (стручковыя расліны бяруць азот з паветра ў значных колькасцях і накапліваюць яго ў глебе). У гэтым выпадку трэба звярнуць асаблівую ўвагу на калійныя ўгнаенні.

Усе мінеральныя ўгнаенні выконваюць дадатковую ролю. Найважнейшыя арганічныя ўгнаенні: гной, кампост, гнаёўка, зялёнае ўгнаенне.

Вялікая колькасць гэтых угнаенняў патрэбна пад цукровыя буракі, рапак, тытунь, бульбу, кукурузу і іншыя. Прымяненне яшчэ ў дадатак штучнага ўгнаення гарантуе высокія ўраджаі.

**Інж. М. Сухажэбрскі**



## Апрацоўка ільну

Апрацоўка ільну займае вельмі многа часу. Там, дзе толькі адна жанчына ў хаце, неаднойчы апрацоўка ільну працягваецца цэлую зіму.

На здымку Нюра Пецэвіч з Новага Вострава на Сакольшчыне трэ лён.

мх

## Калі ў згодзе і культурна

Прачытаўшы ў «Ніве» артыкул «Сельская моладзь у сапраўднасці» (9.XII.1962 г.), захацелася і мне, стараму, напісаць некалькі слоў аб сваёй моладзі са Старога Ляўкова. Я ўжо маю 73 гады і добра памятаю, як мы калісьці гулялі, або праўдзівей — марнавалі свае маладыя гады. Узяўшы гэта ўсё пад увагу, я падумаў: а мо' і я тут у нечым дапамагу, каб змяніць усё гэта на лепшае і разумнейшае.

Гэта было ў гадах 1945—48. Жыў я тады ў парафіяльнай плебаніі. Там была вялікая зала. І моладзь звярнулася да мяне з просьбай дазволіць ім зрабіць у гэтай зале забаву. Як раней адбываліся такія забавы, то хіба рэдакцыя ведае, бо я нават маю той малюнак, як вырываюць штахеты ў Старым Ляўкове. Я паставіў ім такія ўмовы: каб я нікога не бачыў у памяшканні ў шапцы, з папяросай у зубах, і каб не чуў ніводнага нецэнзурнага слова, бо інакш гашу лямпу і замыкаю памяшканне. Усе на гэта згадзіліся. Перад пачаткам забавы хлопцы паставілі ў дзвярах вартаўніка. Той, кожнаму, хто ўваходзіў у памяшканне ў шапцы, або з папяросай, звяртаў увагу: — Скінь шапку! А папяросу кінь у куток, або дакуры ў сенях.

І ўсе слухаліся. Але прыйшоў п'яны і пачаў лаяцца. Моладзь яго далікатна вывела з памяшкання і паказала дарогу дахаты.

Цяпер ужо не ўбачыце ў нас на забаве, а нават і на вяселлі хлопца ў шапцы і з папяросай у зубах.

І калі наша моладзь зрабіла аднойчы прыватку, куды дзяўчаты прынеслі закускі, а хлопцы «моцнай», то на сваю гасціну запрасілі і мяне. І я тады сказаў некалькі слоў, як гэта прыемна для нас, бацькоў, і для ўлады, калі моладзь жыве ў згодзе і вядзе сябе культурна.

**А. ГРЫЦ**

## ПАСЫНКІ НЕ СПЯЦЬ

Шмат хто скажа, што Пасынкі — гэта лянівая вёска. Няпраўда! Тут жывуць людзі дбайныя, якія хочуць вучыцца і працаваць па-новаму. Перад усім аб настаўніках. Дзверы школьнага будынка не закрываюцца да 21 гадзіны. Пасля абеда прыходзяць сюды школьнікі на адраблянку. Настаўнікі штодзённа тут дзяжураць і дапамагаюць дзецям адрабіць хатнія заданні. Далей пачынаюцца заняткі праблемнага курса, на які запісалася 18 асоб. Выкладаюць кіраўнік школы грам. Якубюк і настаўніца грам. Рыбак. Заняткі праводзяцца два разы ў тыдзень.

Таксама ў школьным будынку адбываюцца лекцыі матаровага курса, на якім удзельнічае 30 асоб.

Нехта падумае: такая вялікая вёска, ці ж тут нельга яшчэ чаго арганізаваць, паставіць нейкую п'есу. Ох, не даводзьце да жалю хлопцаў, бо ўсяго ў вёсцы засталося дзве дзяўчыны, да таго яшчэ сёстры. І вазьмі натанцуй.

Моладзь пісала заяву да павятовай пажарнай стражы ў Бельску, каб арганізавалі ў нас добраахвотніцкую пажарную каманду. Дагэтуль няма адказу. Каб толькі ў Бельску пацікавіліся, то напэўна моладзь з Пасынкак нічым не рознілася б у сваёй рабоце ад іншых. А пажарную каманду трэба арганізаваць, бо да найбліжэйшай — 6 км.

**Уладзімір Весялоўскі**
Пасынкі

## Бельскі аддзел абмеркаваў працу

12 снежня 1962 г. Аддзел БГКТ у Бельску падвёў вынікі сваёй працы. На сходзе апрача членаў праўлення прысутнічалі праўленні гурткоў і прадстаўнікі мясцовых улад. Зараз на Бельшчыне маем 40 гурткоў БГКТ, якія налічваюць 1128 членаў. Сход, пасля абмеркавання, вызначыў заданні на будучыню.

**Сцяпан Карбоўскі**
Бельск

## КАВАЛЬ

Сяргея Казлоўскага, вясковага каваля, ведаюць не толькі ў яго роднай вёсцы Навіны (Гайнаўскі павет). Работа каваля цяжкая, але калі хто яе любіць, яна заўсёды прыносіць задавальненне і павагу людзей. Цяпер у Сяргея Казлоўскага многа работы. Усё больш сялян зацікаўлена мець воз на гумовых колах, тым больш, што калі дрэва зробіць столяр, яго каваць і ўзмоцніць жалезам мусіць каваль. Апрача гэтага навінскі каваль, як яго завуць у аколіцы, спецыяліст. Ён і складаную машыну наладзіць, сякеру ці сашнік навострыць, выкуе матыку. І ўсё, што выйдзе з рук вопытнага каваля, доўга служыць чалавеку. Больш бы такіх кавалёў.

**Янка Цялушэцкі**
Новае Ляўкова

## АРГАНІЗАТАРЫ

**(Працяг са стар. 4)**

звезена блізка 100 кубаметраў каменя, і стольکі ж прыкладна жвіру. Людзі згадзіліся ў час будовы школы бясплатна выконваць усе нефаховыя работы. Але, на жаль, у наступным годзе будова школы не распачнецца. І вось гэты факт найбольш непрыемнасці прыносіць арганізатарам грамадскіх чынаў. Але гэта іх не заламлівае. Яны працуюць далей з такой жа самай ахвярнасцю і энергіяй.

* ✲ *

У многіх мясцовасцях можна спаткацца з тым, што існуе нейкі недавер да моладзі. Некаторыя не вераць, што моладзь на адказных кіраўнічых пасадах належна справіцца са сваімі абавязкамі. На прыкладзе прэзідыума ГРН у Нурцы (а там толькі моладзь працуе) можна пераканацца, што варта і трэба ўзнагароджваць маладых юнакоў і дзяўчат поўным даверам. Яны добра і ахвярна працуюць. (мх)




Дарагое СЭРЦАЙКА

Мне пайшоў васемнаццаты год. Ужо чатыры гады як я пазнаёмілася з Пецем. Гэта хлапец з нашай вёскі. Усе ў вёсцы ведаюць і лічаць нас нарачонымі. Пеця мне падабаецца і здаецца, што я яго кахаю. І вось якая справа выйшла з гэтага. Пеця пайшоў у армію, але ўжо незадоўга мае вярнуцца. У гэты час я пачала сябраваць з Алёшам. Алёша таксама з нашай вёскі. Калі іх параўнаць, дык Пеця мо' і прыгажэйшы, але Алёша мае вельмі добры характар, і таксама багаты. І вось Алёша хоча са мною жаніцца. І думаю выйсці за Алёшу замуж, ён добры і багаты, але і шкада Пеці, бо я ж з ім толькі год сябравала.

Скажы, Сэрцайка, ці я добра паступаю, выходзячы замуж за Алёшу?

**Ірэна**
з Дуброўскага павета

З пісьма Твайго, Ірэна, відаць, што ты яшчэ за маладая, каб рашаць такія сур'ёзныя справы ў жыцці, а ты ўжо збіраешся ісці замуж не маючы 18 год. Ці табе сапраўды не хочацца правесці так кароткіх і сапраўды бестурботных і вясёлых год? А па-другое, ты не кахаеш ні Алёшы, ні Пеці, так выглядае з твайго пісьма. Мая парада: не выходзь замуж за Алёшу. Ты павінна яшчэ пагуляць, яшчэ маеш многа часу, каб пакахаць кагосьці сапраўды.

**СЭРЦАЙКА**

## КІНО

Праграма на 7.I. — 13.I.1963 г.

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа** „Bitwa o Kozi Dwór" (polski), 8—10. „Teresa prowadzi śledztwo" (czeski), 11—13.

**Кляшчэлі** „Na tropie" (franc.), 8—10. „Człowiek zza biurka" (włoski), 11—13.

**Навасады** „Tomcio Paluch" (meksykański), 11—13.

**Нараў** „Tata, mama, córka i zięć" (radz.), 9—13.

**Нараўка** „Jewdokia" (radz.), 9—13.

**Чаромуха** „Bitwa o Kozi Dwór" (polski), 8—10. „Marynarz z Komety" (radz.), 11—13.

**Чыжы** „Pragnienie" (rumuński), 9—13.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі** „Herszt" (franc.), 9—13.

**Бранск** „Tajemnica zielonego boru" (radz.), 8—10. „Dwaj panowie N" (polski), 11—13.

**Гродзіск** „Rzeczywistość" (polski), 12—13.

**Орля** „Tajemnica starej kopalni" (angl.), 9—13.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок** „Aby kwitło życie" (polski), 8—10. „Ruda Julka" (franc.), 11—13.

**Міхалова** „Poławiacze gąbek" (radz.), 8—10. „Marynarz z Komety" (radz.), 11—13.

**Супрасль** „W. I. Lenin" (radz.), 8—10. „Ożeniłem się z czarownicą" (USA), 11—13.

**Чорна Беластоцкая** „Sprawcy nieznani" (włoski), 8—10. „Na trasie do Bordox" (franc.), 11—13.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Мельнік** „Tragiczny zamach" (jugosł.), 8—10. „Historia żółtej ciżemki" (polski), 11—13.

**Мілейчыцы** „Sprawcy nieznani" (włoski), 8—10. „Noc poślubna" (polski), 11—13.

**Нурэц** „Z soboty na niedzielę" angielski), 8—10. „Noc poślubna" (polski), 11—13.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі** „Champion" (USA), 8—10. „Z iskry rozgorzeje płomień" (radz.), 11—13.

**Сухаволя** „Koncert gwiazd" (radz.), 8—10. „Komedianty" (polski), 11—13.

**Шудзялава** „Słońce wschodzi nad Bengalem" (pakistański), 9—13.

**Янаў** „Marcin w obłokach" (jugosł.), 8—10. „Bestia" (angl.), 11—13.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Ліпск** „Niewysłany list" (radz.), 12—13.

**Новы Двор** „Drzwi stoją otworem" (jugosłowiański), 12—13.

Ніва

**Adres redakcji:** Białystok, ul. Wesołowskiego 1.
**Telefony:** red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 49.
**Warunki prenumeraty:** miesięcznie — 2.40 zł kwartalnie — 7.20 łz. półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28.80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.
Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wilcza 46 Nr konta PKO 1-6-100024
Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiazuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $, w Europie 5 $ — w USA.
Nakład 5000. Błtk F-3



— Мая жонка спадабаецца табе, усе яе любяць...

### УРАЖЛІВАСЦЬ

— Добры ты сябра! Такога труса як ты, я яшчэ не бачыў!

— Чаму?

— Што ты ўчора зрабіў, калі на мяне напалі хуліганы?

— Я хутка ўдаліўся.

— Вось, калі ласка!

— Гэта зусім не была труслівасць. Проста я не мог глядзець, як б'юць майго найлепшага сябра.

*

### АБО, АБО

У Афрыцы ў час спякоты стаіць на беразе ракі турыст, нерашуча ўзіраючыся ў ваду. Нарэшце звяртаецца да тубыльца:

— Ці ў гэтай рацэ няма акул?

— Не, няма.

— Вы ўпэўнены?

— Зразумела.

Турыст раздзяваецца і скача ў ваду. Купаючыся, крычыць да тубыльца:

— Маеце рацыю, ані следу акул!

— Вядома, калі ёсць кракадзілы, то не можа быць акул!

*

### НЕЗАДАВОЛЕНЫ

П'яніца падае з трэцяга паверху на вуліцу. На шчасце нічога яму не сталася. Падносяць яму шклянку вады. П'яніца з пагардай адхіляе яе.

— Скажыце, з якога паверху трэба спасці, каб атрымаць кілішак гарэлкі?






### БЫВАЙ, ВОКА!

Адзін п'яніца прыйшоў да лекара і кажа, што яму баліць вока.

— Вы павінны або перастаць піць гарэлку, або страціце вока, — сказаў лекар.

— Ну, калі так, то бывай, вока! — адказаў кліент і пайшоў ад лекара.



**НАВАТ САБАКА АДВАРОЧВАЕЦЦА**

— Ну яе, з такою «чыстай»! Хай гэта паскудства людзі п'юць.




Вечар сіні, васільковы
Распасцёрся над зямлёй.
І мы песні ў годзе новым
Васільковыя пяём.

Весялей іграй гармонь,
Хай нясецца слава.
Ліха, злосці і нуды
На зямлі не стала.

Пад вясёлую гармонь
Танцуй, хлопцы, ходырам.
Патурылі абібокаў,
Языкастых лодыраў.

Ты іграй, іграй, музыка,
Сумаваць мы не прывыклі.
Мы жа ж жукі рэзкія,
Хлопцы белавежскія.

Сабірайцесь, хлопцы, дзеўкі, —
Свецяць зоры ясныя.
Заспяваем мы прыпеўкі
Новыя, сучасныя.

Па-над рэчкай мы хадзілі, —
Там халодная вада.
Гуртkoў столькі натварылі,
Кіраваць — адна бяда.

На дварэ стаіць круцель
І вачыма моргае.
Ну, чаго ты нас баішся?
Мы ж такія добрыя!

Асушылі справаздачы,
Дзе калісь была вада,
Усе такія сталі цацы,
Пустазелля больш няма.

Пра работу нашай «Нівы»
Грыміць слава на ўвесь край:
Са свайго сабрала поля
Стопудовы ўраджай.

На малінніку вясела
Ягадзінка ясная.
Не хачу жыцця другога,
Як жыцця сучаснага.

Не шумі ты, лес высокі,
Нудных песень не спявай,
Дзён калісьніх, дзён далёкіх
Ты нам, лес, не спамінай.

Серабрыцца ў полі ліпа,
Серабрыцца ў полі ліст.
Той, хто ліжа і свяргоча —
Несумненна — кар'ерыст.

Дык патопалі далей,
У нас дарога простая.
Слабы любіць фіміям,
Моцны — сродкі вострыя.

Калядаваў КРОПКА

### ПУД СОЛІ

Адзін хлопец сустрэўся з дзяўчынай і пакахаў яе так, што вырашыў ажаніцца.

— Як жа мы можам жаніцца, — гаворыць дзяўчына, — калі так мала знаем адзін аднаго, яшчэ ж і месяца не прайшло, як мы пазнаёміліся. А для таго, каб добра пазнаць чалавека, як кажуць, трэба з ім пуд солі з'есці...

— А мы давай пажэнімся, — стаяў на сваім хлапец, — а потым будзем разам есці соль, бо так, жывучы асобна, мы і праз дзесяць год не будзем ведаць, колькі солі з'елі.

### ГВОЗДЗЬ ПРАГРАМЫ

Малады чалавек прыходзіць да дырэктара цырку.

— Хачу вам запрапанаваць сенсацыйны нумар. Магу скочыць з купалу і стаць на ўласнай галаве!

Пакуль дырэктар паспеў адказаць, малады чалавек улез на купал і скочыў, зграбна стаўшы на галаве.

— Гэта надзвычайна! Прымаю вас і плачу вам любую цану.

— На жаль, я раздумаўся. Гэта надта балюча!..

*

### ГУЛЬНЯ

Суддзя да абвінавачанага:

— Абвінавачваем вас у тым, што далівалі ваду да малака.

— Гэта мой сынок, пане суддзя, зрабіў мне гэтакі жарт і наліў вады ў малако.

Суддзя да малыша:

— Навошта ты зрабіў бацьку такі жарт?

— Бо я гуляў.

— У што гуляў?

— У малочніка!



На ўсякі выпадак.

**КУР'ЁЗЫ**

## Конкурс таўстуноў

У горадзе Кавур (Італія) адбыўся 12-ты міжнародны конкурс таўстуноў, у якім прынялі ўдзел 60 чалавек. Першае месца заняла 32-гадовая жыхарка Турына, вага якой 208 кілаграмаў. Другое месца заняў камерсант з Вогеры — 189 кілаграмаў 800 грамаў. У азнаменаванні сустрэчы ўдзельнікі спаборніцтва наладзілі банкет, на якім было выпіта 720 літраў п'емонцкага віна.

«ЮМАНІТЭ»

**ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ**

**По просьбе Мікалая Дземянюка з Беластока змяшчаем папулярную песню з кінафільма «Вясёлыя рабяты».**

## СЕРДЦЕ

Как много девушек хороших,
Как много ласковых имён,
Но лишь одна из них тревожит,
Уносит покой и сон,
Когда влюблён.

Любовь нечаянно нагрянет,
Когда ее совсем не ждёшь.
И каждый вечер сразу станет
Удивительно хорош,
И ты поешь:

Сердце, тебе не хочется покоя,
Сердце, как хорошо на свете жить.
Сердце, как хорошо, что ты такое,
Спасибо, сердце, что ты умеешь так любить.

# У КАРНАВАЛЬНУЮ НОЧ

Малыш ружовы ад марозу, размашыста, бы дарослы, хлопаў рукавіцамі.

— Адкуль ты, хлапец? — спытаў я незвычайнага наведвальніка.

— Пара наступіла, вось і прышоў, — адказаў малыш і, стаўшы на дыбачкі, папрасіў: — Дай закурыць.

— Яшчэ малако пад носам не высахла, а ўжо за куравам цягнешся, — сказаў я. — А як цябе клікаць?

— Бачу, не здагадваешся, дзядзька, хто да цябе завітаў, — кажа малыш. — Я Новы Год!

— А бадай мяне жаба растаптала, а бадай мне вочы павылазілі! — ускрыкнуў я ў захапленні. — Выбачай, што не прыкмеціў! А мы ж цябе чакалі — не дачакаліся!

— Чаго ж гэта? — цікавіцца ён.

— Стары год падвёў нас пад манастыр, — тлумачу яму. — Як да новага ўраджаю дацягнуць — лясун яго ведае!

— Эгэ, завініў стары! — качае галавою малыш. — А я нясу ўраджай багаты. Калі вясной не хопіць, затое восенню будзем сыты!

— А каб яму, старому году, папухлі пяткі! — пажадаў я нядобрае.

— Лаяць лепш у вочы, хваліць — за вочы, — звярнуў увагу малыш і спытаў: — У вёсках новыя школы пабудаваны?

— Стаяць школы, таіць няма чаго.

— Новыя магазіны адкрылі?

— Твая праўда.

— У новыя дамы пасяліліся людзі?

— Пасяліліся, бы семячкі ў агурках.

— Тэлевізійную станцыю ў Крыніцы паставілі?

— Стаіць, бы намаляваная.

— Газавы завод шыпіць?

— Бы самавар, — згадзіўся я.

— Вось бачыш! Я не статыст, каб усе гадавыя дасягненні пералічваць. Даеш папяросу?

Закурылі мы, аж дымок пайшоў.

— А мо' мы такі чокнемся шкляначкамі? — прапаную госцю, жмурачы вока.

— Не магу, — кажа ён. — Маю работы па вушы, а начаваць у вытверазілаўцы нязручна. У гэту ноч і без мяне будзе там народу процьма.

— Якая ў цябе работа, дружок? — пытаю.

— Гаспадарку прымаю па актах, — адказвае. — Людзі весяляцца, а ў мяне турбот поўны рот.

— Работа не верабей, па адной стопцы перахіліць не зашкодзіць, — не адступаю я. — Як не вып'еш, у бойку палезу!

— Бачыш ты яго! Сярдзіты і ў сне барадою трасе, — адазваўся Новы Год, і, зняўшы рукавіцу, пачаў развітвацца.

Тут я схапіў малыша за руку і закрычаў: — Вось папалася птушка, стой, не адыдзеш без вінца!

— Частаваць можна, а няволіць грэх, — адазваўся малыш.

— Здзіўляючае племя, — гавару я. — Ты такі малы, а пройдзе дванаццаць месяцаў — старэчай будзеш.

— Лепш бадзёры старык, чым вялы маладзік, — сказаў Новы Год, смеючыся ад вуха да вуха.

— Надта ж люблю такіх, якія за словам не лезуць за пазуху, — кажу, і тут нечакана абваліўся на мяне паталок.

Пад гэтакім цяжарам прыадкрываю вочы і бачу: душыць мяне не паталок, а нага маёй бабы. Заснула мілая, а мяне прыдушыла нагою, каб я да кладоўкі не дабраўся.

Хацеў я адсунуцца ды зрабіў гэта няўдачна. Прачнулася баба і забармытала:

— Ірад ты, людзі на карнавалах весяляцца, а ты храпеш, бы парсюк.

Яшчэ нешта замармытала ў дрымоце і закінула на мяне другую нагу.

Так-так, людзі добрыя, цяжка пачынаўся для мяне Новы Год.

Дзядзька Лявонь